ЯКУБ КОЛАС

(К. МІЦКЕВІЧ)

# ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ




УГОДКОВАЕ ВЫДАНЬНЕ

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА
ДРУКАРНЯ «ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА» Б. КЛЕЦКІНА

ЯКУБ КОЛАС
(К. МІЦКЕВІЧ)

# ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ

## УГОДКАВАЕ ВЫДАНЬНЕ



ВІЛЬНЯ — 1927

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА

# Жыцьцё і творчасьць Якуба Коласа.

Якуб Колас (праўдзівае прозьвішча — Костусь Міцкевіч), сын селясніна з в. Мікалаеўшчыны, Менскага павету, радзіўся 22 кастрычніка ст. ст. (4 лістапада—па новаму) 1882 году. Вёска яго славілася з даўных часоў тым, што імя сваё атрымала ад імя князя Мікалая Радзівіла, ведамага ў XVI сталецьці на ўсю Беларусь і Літву прыхільніка Рэфармацыі: па загаду яго ў закладзенай у Нясьвіжы Кавэчынскім друкарні друкаваліся беларускія кніжкі, у тым ліку кальвінскі катахізм 1562 году. Але і ў найнавейшыя часы Мікалаеўшчына была шырака вядома навакол дзеля таго, што з яе вельмі многа моладзі йшло на народных настаўнікаў, і да вайны больш за 30 мікалаеўцаў прайшлі навукі ў Нясьвіжскай вучыцельскай сэмінарыі. За імі сьледам пайшоў і малады Костусь Міцкевіч. Хоць і суровыя парадкі панавалі ў Нясьвіжы, дзе беларускую моладзь узгадоўвалі ў чорнасоценнаабрусіцельным духу,—аднак, грамадка мікалаеўцаў ня надта паддавалася сваім кіраўнікам: у іх цьвёрда дзяржалася сьвядомасьць, што яны—беларусы, сыны сярмяжнага народу, што яны павінны захаваць жывую сувязь з роднай вёскай і сваімі братамі, якія працуюць на ральлі, — а першым крокам у гэтым кірунку зьяўляецца родная мова, якой яны змалку лет гаварылі ў роднай хаце. Дык, захопліваючыся красой багатай расейскай літэратуры, з якой іх знаёмілі, хоць і даволі аднабока, у сэмінарыі, — мікалаеўцы не выракаліся беларушчыны і нават у часе бытнасьці ў сэмінарыі пробавалі на сваіх вечарынах дэклямаваць беларускія вершы, якія перапісываліся і пераховаваліся больш сьвядомымі спасярод сэмінарыстаў. Да ліку апошніх належаў і Міцкевіч, які з 12 гадоў пробаваў і сам пісаць вершы—праўда, спачатку парасейску.

Пасьля сканчэньня сэмінарыі Костусь Міцкевіч дастаў месца народнага вучыцеля ў урадавай школе (у Піншчыне), дзе быў прымушаны вучыць дзяцей парасейску. Хоць і разлучаны з школьнымі таварышамі, аддзелены вялікімі пра сторамі балот і лясоў ад таварышоў па працы,—Міцкевіч усё-ж ня губляў з імі сувязі, спатыкаючыся з імі ў часе сьвятаў у роднай Мікалаеўшчыне, дзе сябры з году ў год акуратна зьяжджаліся. З імі Міцкевіч абгаварваў і мучыўшае яго, як пэдагога і беларуса, пытаньне: чаму дзецям беларускім дзеецца такая крыўда, чаму іх прымушаюць ад маленства вучыцца ў чужой мове і забываць сваё—роднае? А вынікам гэтых супольных гутарак і нарад было тое, што Міцкевіч стануў

у рады барацьбітаў за беларускую народную школу, прыняў чыннае ўчасьце ў беларускім адраджэнскім руху.

Пад той час (у канцы 1906 году) ў Вільні ўжо пачала выхадзіць першая беларуская легальная часопісь „*Наша Доля*". І Міцкевіч, які ўжо пазнаёміўся быў з беларускім рухам праз дзеяльнасьць Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля—Сацыялістычнае) Грамады, зразу-ж адгукнуўся на заклік Рэдакцыі газэты да працы, распачаў перапіску з ёю і ў № 3 „*Н. Д.*" надрукаваў свой верш „Беларусам" — першы, які пабачыў сьвет у друку. Верш гэты, дужа характэрны для настрояў маладога паэта, падаем цалком:

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце браткі,
Устань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна!

Ці-ж мы, хлопцы, рук ня маем?
Ці нам сілы бог ня даў?
Ці над родным нашым краем
Луч свабоды ня блішчаў?

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сьцяна. —
І прачхнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

Чалавек, які мог кідаць гэткі моцны заклік, пісаў не на вецер, не дзеля мімалётнага настрою. Крэпкі быў дух барацьбяны ў *Якуба Коласа* (як сябе Міцкевіч назваў, каб укрыць ад улады „праступную" на яе пагляд сваю паэтыцкую працу), дык ад слоў зразу-ж перайшоў да дзела. Захоплены рэвалюцыйным рухам 1905—6 гадоў, Колас, аднак, на першым месцы стаўляе барацьбу за духовае вызваленьне беларуса—перадусім праз родную школу. Ён прыймае ўчасьце ў першым беларускім настаўніцкім зьезьдзе, скліканым Грамадой у Вільні ўлетку 1906 году *). Сьледам за гэтым ён арганізуе з сваіх мікалаеўскіх сяброў патайны „Беларускі Саюз Народных Вучыцялёў", які ў сваей праграме ясна паставіў дамаганьне беларускае народнае школы. Але арганізацыі не пашэньціла: яна была выкрыта паліцыяй, і Міцкевіч разам з некалькімі другімі сябрамі арганізацыі быў засуджаны менскім акружным судом на тры гады вастрогу, дый кару адбыў у менскім вастрозе.

Грамадзкая праца і дазнаныя беды ня толькі не забіваюць у Коласа „іскры божае", але, наадварот, пабуджаюць яго ісьці няўхільна далей па шляху паэтыцкае творчасьці. За кратай у песьняра выліваецца цэлы рад цудоўных яго „вастрожных песьняў", перадаваных на волю і перасыланых

*) Зьезд гэны, ведама-ж нелегальны, адбыўся ў салі пры літоўскім касьцеле сьв. Міхала, гасьцінна-дадзенай на гэта літвінамі.

у Рэдакцыю «Нашае Нівы» («Наша Доля» тады ўжо ня выходзіла). Пасьля выхаду з вастрогу Колас з новай энэргіяй бярэцца за працу, і вось, пачынаючы ад 1910 году, адна за аднэй выходзяць у сьвет вялікшыя і меншыя кніжачкі з ягонымі вершамі і апавяданьнямі (апошнія пад псэўданімам Тараса Гушчы). Гэтак вышлі: «Песьні Жальбы» (зборнік вершаў), «Батрак", „Як Юрка збагацеў", „Прапаў чалавек", „Родныя Зьявы", „Апавяданьні", „Нёмнаў дар", „Тоўстае палена".

Вайна адарвала Коласа ад цэнтраў беларускае творчае працы, перадусім ад Вільні. І ў працягу некалькіх гадоў, жывучы ў Курскай губэрні, ён нічым новым не напамінае аб сабе сваім чысьленым і шчырым паклоньнікам. Але за гэтыя гады творчая думка працуе ў Коласа, і вось—з канцом сусьветнае бойні—адзін за адным выходзяць у сьвет новыя—вялікшыя творы Коласа, сьведчучы аб нясупынным росьце ягонага таленту. За гэты час дасьпявае яго цудоўная поэма „Новая Зямля", распачатая яшчэ ў 1911 годзе і закончаная ў 1923. У 1918 годзе друкуюцца першыя тры часткі поэмы Коласа „Сымон Музыка", якую поэт меў закончаную ў рукапісе ўлетку 1924 году, ды яе ў яго, едучы чыгункай, разам з другімі рэчамі нехта ўкраў. Але гэта Коласа не знеахвоціла: ён адтварае згубу, перапрацоўвае пачатак і ў 1925 годзе выпускае цэлую поэму, пасьвяціўшы яе белалускай моладзі. Урэшце ў 1924 годзе вышла ў сьвет повесьць Коласа, пісаная ня вершам, а прозай: „У Палескай глушы".

Друк апошніх твораў прыпадае на найшчасьлівейшую, здаецца, у жыцьці Коласа пару: ён асеў аканчальна ў Менску, дзе сустрэў вельмі гарачы прыём і дзе перад ім расчынілася магчымасьць цалком аддацца творчай працы: Рада Народных Камісараў Радавае Беларусі надала яму тытул *Народнага Поэта* і забясьпечыла яму жыцьцё дажывотняй пэнсіяй. Тут, у Менску, Колас ужо напісаў драму „Забастоўшчыкі", дзе малюецца, як падае Гарэцкі, нелегальны зьезд беларускіх настаўнікаў у часе царскага рэжыму, іх ідэалёгія, жыцьцё і г. д.

За во-шта-ж мы гэтак высака цэнім Якуба Коласа, што даў ён нам новага ў сваей творчасьці, чым узьнёсся па на-над цэлую масу другіх беларускіх поэтаў? — Каб даць адказ на гэтыя пытаньні, трэба глыбей унікнуць і разглядзецца ў творчасьці Коласа.

Аглядаючыся на папярэднікаў Коласа і пакінуўшы збоку ягонага равесьніка Янку Купалу, як першага поэта-павадыра ў адраджэнскім руху, — мы мусім адзначыць, што нашы пісьменьнікі з XIX сталецьця — гэта выключна прадстаўнікі краёвае інтэлігенцыі, крэпка зьвязанай з народам, але ўсё-ж належаўшай да так-званае „вышэйшае" сфэры — шляхоцкае, чыноўніцкае. Гэта ўсё — дасьледчыкі народнага жыцьця і народнае душы, глядзеўшыя на нашу вёску *зьверху* і — зусім натуральна, ня гледзячы на ўсю сваю чуткасьць, — няздольныя дайсьці да дна народнае душы. І Марцінкевіч, і такі шчыры народнік, як Багушевіч, і пазьнейшы нашанівец Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) — ўсе яны *апісавалі* народ. падыходзячы да яго

болей ці меней блізка. Іх настроі і думкі — гэта йшчэ не беспасрэднае выяўленьне настрояў і думак сялянскае масы, якая высказвалася ў тыя часы бадай выключна ў песьні народнай, у казцы — легендзе, творанай ад вякоў і ўсьцяж абнаўлянай.

Якуб Колас — першы пасьля Купалы вялікі мастак слова, які сам выйшаў з народнае гушчы, які ніколі ад яе не аддзяляўся і даў запраўднае — да канца — *выяўленьне беларускае сялянскае душы* *). Праз ягоныя вусны прамовіў *сам народ*. Вось гэты *зьмест* творчасьці Коласа разам з мастацкай *формай* яе і складаюць тую вялізарную цэннасьць поэзіі Коласа, якая паставіла яго на першым — побач з Купалай — месцы ў беларускай адраджэнскай літэратуры.

З поўным правам можа наш Міцкевіч тасаваць да сябе словы свайго аднафамільца — вялікага Адама, які „за мільёны кахаў і цярпеў“. Душа Коласа — гэта душа беларускага вяскоўца, толькі непамерна ўзросшая панад вясковы ровень, абняўшая ўсе праявы жыцьця і ўсе перажываньні сярмяжнае масы. Яго сэрца б'ецца ў тахт з біцьцём міліёнаў сэрц сялянскіх. Ен глядзіць на сьвет вачыма сваіх братоў-сярмяжнікаў, толькі адразу абымае вялізарныя прасторы, недаступныя кожнаму з іх паасобку. І з душы яго вырываецца стогн — крык жалю і крыўды, крык міліёнаў забітых, загнаных і змардаваных жыцьцём людзей, які выліваецца на паперу ў пастаці мастацкіх вершаў, апавяданьняў, казак... Не дарма-ж першы зборнічак вершаў сваіх назваў Колас „Песьнямі жальбы“: ў іх адбіўся ўвесь сум і ўсё гора многапакутнае беларускае вёскі, — той сум, што вее ад нашых ніў і палеткаў.

У коласаўскай лірыцы, дзе поэт заўсёды бывае найбольш беспасрэдні, найлепш і найпаўней выявілася душа беларускага народу. Хоць у Коласа пануе сумны настрой, хоць жалем і скаргай пранікнуты ягоныя „Песьні жальбы“, як і душа нашага вясковага люду, — аднак, сум і туга яго не адчайныя, не безнадзейныя: праз іх прабіваецца пачуцьцё ўласнае сілы прабіваецца магутнае імкненьне да волі, якую дае жыцьцё на ўлоньні прыроды, прабіваецца вера ў тое, што сучасны стан — гэта нешта дачэснае, што „быць ня можа, каб ня грэла лепей сонца“, што „наша Праўда нам, паможа, — блісьне сьвет і к нам ў ваконца!“ І ў меру таго, як ідзе прабуджэньне ў беларускіх працоўных масах, як вырастае душа народная, як рэалізуюцца імкненьні масы да волі і яснаты, — ў меру гэтага і настроі Коласа зьмяняюцца. Праўда, вялізарнае ўстрасеньне, якое перажыў беларускі народ у сувязі з вялікай вайной і рэвалюцыяй, на мамэнт парушае тую *духовую роўнавагу*, якой ад самага пачатку сваей творчасьці ад'значаецца наш пясьняр — так сама, як і апяваны ім народ. Але сьледам за мамэнтам нейкага як-быццам недаўменьня, нейкае нэрвовасьці і хваравлівае ўражлівасьці, выяўленай Коласам у вершах з часоў, калі йшчэ

*) Места заўсёды было і асталося для Коласа чужым і незразумелым.

як-быццам важыўся лёс яго народу („Звон шыбаў". „Цені-страхі"), — Колас мацнее душой, крапчэе яго вера ў ясьнейшую будучыну, і ў сваіх апошніх творах, зьмешчаных у зборніку „Водгульле", Колас ударае ў новы тон — адпаведна да настрою беларускае вёскі ў вольнай Беларусі: „Змоўкні ты, сьціхні, песьня пакуты!" — кажа поэт і заклікае сьпяваць „новыя песьні" — песьні Волі.

Душа беларускага селяніна неаддзяліма ад тае прыроды, з якой ён ад вякоў зжыўся, якая кшталтавала ягоную душу. І гэтая самая прырода, з якой так хараша станавалася песьня нашага народу, увабраўшы ў сябе і шум нашым бароў, і сьпеў ветру ў полі, — гэтая самая прырода дае Коласу магутнае творчае натхненьне, а кожная зьмена ў жыцьці прыроды знаходзе жывы водгалас у коласаўскай поэзіі. Колас — бадай *першы* сярод нашых песьняроў іменна *ў галіне маляваньня прыроды*, і поэма яго „Новая Зямля" з гэтага пагляду ня мае сабе роўнае ў нашай літэратуры.

Выяўляючы ў *лірыцы* душу народу і настроі беларускае прыроды, Колас у сваіх *эпічных* творах дае глыбокі аналіз гэтае душы і роднае прыроды, заўсёды ў яго жывой і такой блізкай да спраў чалавечых („Казкі жыцьця"). Сьледам за цэлым радам невялікіх апавяданьняў, пісаных вершам і прозай («Родныя Зьявы»), Колас, у меру ўсё паўнейшага апаноўваньня ім поэтыцкае тэхнікі, пераходзе да вялікіх твораў, сцьвярджаючы ў іх свой уласны духовы рост. Да гэткіх твораў належаць: поэмы вершам — „Новая Зямля" і „Сымон Музыка", ды повесьць „У Палескай глушы". „Новая Зямля" — гэта найпаўнейшы і найбагацейшы малюнак жыцьця сялянскае сям'і і змаганьня безьзямельніка лясьніка за свой самастойны варштат да працы — за *зямлю*. А як добра, як глыбака заглядае Колас у душу беларускага дзіцяці — і ў „Новай Зямлі", і раней — у дробных апавяданьнях! Дый усю сваю поэму „Сымон Музыка" наш пясьняр ахвяроўвае ў цудоўным па хараству вершу — *нашай моладзі*. „Сымон Музыка" — гэта проблема паяўленьня самародкаў-мастакоў у нашым народзе, гэта памастацку змаляваны абраз духовага росту і сацыяльнага дасьпяваньня дзіцяці-музыкі, пайшоўшага самапасам у жыцьці. — А повесьць Коласа «У Палескай глушы» — гэта пабедная песьня моладасьці з яе высокімі ўзьлётамі ўвышу і вялікімі ідэаламі, — тэй маладасьці, што так лёгка перамагае ўсе нягоды, увесь бруд жыцьця. Гэта — бяссумліўна ў значнай меры абраз уласнаго жыцьця Коласа з першых гадоў яго працы, як народнага настаўніка, у глушы Палесься.

*Мяккасьць тонаў*, якімі малюе Колас родныя абразы, зьяўляецца асноўнай вонкавай рысай яго творчасьці, дый яна цалком вынікае з агульнага характару Коласа. Але Колас умее знайсьці і другія тоны, калі яго ахоплівае справядлівы гнеў на крыўдзіцеляў яго народу, і ён вяроўкамі ды асінамі пастрашае тых, каго лічыць ворагам сялянства. З агульным тонам коласаўскае ліры зьвязана і *форма* яго вершаў — такіх *лёгкіх, мілагучных*, быццам самі яны — бяз ніякага высілку з боку аўтара — выліваюцца

з яго душы, творачы запраўдную *музыку словаў*; і калі можна зрабіць Коласу закід, дык гэта будзе хіба тое, што ў ахвяру форме верша ён гатоў прынесьці навет чыстату мовы і вымогі правапісу. А побач з мяккасьцю тонаў чаруе нас Колас *багацьцем і сакавітасьцяй абразоў*, заўсёды такіх жывых, што, здаецца, заплюшчыўшы вочы, убачыш усё тое, што ён апісуе! *І сіла ілюзіі*, якую нам дае аўтар у сваіх творах, зьяўляецца запраўднай мерай мастацкасьці іх.

Ня будзем тут падробна затрымлівацца на тэй ці іншай галіне творчасьці нашага песьняра: абмяжуемся толькі галоўнымі рысамі ў ацэнцы таго скарбу, які прыдбаў Колас для нашай літэратуры, дый ад'значым асабліва тое, за што ён з поўным правам носе пачэсны тытул «*Народнага Паэта*»: бо Колас — гэта як-быццам той *мэгафон* *), праз які голас беларускага сярмяжнага люду разыйшоўся на ўвесь сьвет і — дзякучы мастацтву песьняра — быў пачуты ўсімі, каму мова беларуская даступна і зразумела.

**Ант. Навіна.**

Вільня, 19, XI. 26 г.

---

*) Мэгафонам (гучнагаварыцелем) называецца труба, праз якую гаворачы голас робіцца гучнейшым і чутным на вялікшым прасторы.

# Выбраныя месцы з творчасьці Якуба Коласа.

*З ранейшых вершаў.*

## На новы год. (1907)

З новым годам, шчасьцем новым!
Дай-жа, Божа, гэты год
Каб успомніў шчырым словам
Працавіты ўвесь народ!

Каб больш сьлёзы ня ліліся,
Каб ня падаў чалавек,
Каб астрогі запярліся
Ад людзей на вечны век.

Каб казалі, што хацелі,
Каб ня гнуліс, як цяпер,
Каб са страхам не глядзелі
На вураднікаў каўнер.

Каб пабольшала нам поле,
Каб разросься вузкі луг,
Каб сьпявалі песьні волі,
Дзяржучы жалезны плуг.

Дай Бог шчасьця вам і долю,
Усім, хто сьлёзы праліваў,
Хто у бедным, родным полі
Зерне праўды засяваў!

## „Асадзі назад!"

Дрэнна маё жыцьце—
Усё ідзе ня ў лад;
І крычаць усюды:
„Асадзі назад!"

Божа ты мой мілы!
Б'юся я, як гад;
Толькі-ж куды выйду —
„Асадзі назад!"

Помню, я жаніўся —
Добры быў мой сват!
К дзеўцы нос паткнулі —
„Асадзі назад!"

Дзеўка была важна —
Багатыр Кандрат
Ногу мне падставіў, —
„Асадзіў назад!"

Трапіў я у горад,
Быў як-раз „парад".
Лезу я уперад —
„Асадзі назад!"

Пуста у засеках,
Жыта пабіў град...
— Дай, старшынка, ссуды!
— „Асадзі назад!"

Я з капейкі зьбіўся,
Зарабіць я рад.
Ці няма работы? —
„Асадзі назад!"

Сам я растрапаўся,
Лезе з плеч халат...
— Памажэце, людзі!
— „Асадзі назад!"

Ў вёску хлеб прыслалі, —
Там галодных шмат...
Пруся я з мяшэчкам...
— „Асадзі назад!"

Сына сва йго ў людзі
Вывеў-бы Ігнат.
— Ось, мой сын, паночкі...
„Асадзі назад!"

Галаву я маю —
Быў-бы дэпутат...
— „Правоў ты ня маеш —
„Асадзі назад!“

Праўда, што таіцца?
Быў і мой чарод:
Адзін раз на жыцьцю
Вышаў я ўпярод!

Ўзбунтавалась вёска —
Ой, быў цяжкі год! —
Прыяжджае прыстаў:
— „Выхадзі ўпярод!“

---

## „Да працы“.

«Браты! вялікая дарога
Чакае нас і родны край.
Настала жніва, працы многа,
Навукі зерн засявай!

Нясеце сьвет — у змроку дрэмле.
Наш мілы край, наш родны кут
Няхай ўваскрэснуць нашы землі,
Няхай асьвеціцца наш люд!

Дапомаж Бог нам у прыгодзе!..
Ні царскі біч, ні прышлы хам, —
Хай будзе лад ў сваёй гасподзе
Створаць народ-ўладарац сам».

---

*З зборніка «Песьні жальбы».*

## Усход сонца.

На усходзе неба грае
Дзіўным блескам жару,
Залацісты сноп купае
Ў полымі пажару.

Чуць-чуць дрогне, прыліецца
Чэрвень на усходзе;
Гэта неба усьміхнецца
Людзям і прыродзе...

І ўбірае залатую
Сонейку дарогу,
Паліць сьвечку дарагую
Прад аўтарам Бога.

Над палямі змрок прарваўся,
Па нізу расплыўся;
Лес туманам заснаваўся,
Луч расой абмыўся.

Чыстых хмарах валаконцы
Сталі у кружочак
Вышай лесу, проці сонца —
І сплялі вяночак, —

Як-жа добра пахне збожжа,
А кругом спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна!

І сабрала неба ясна
Блеск усіх калёраў
Стройна, дзіўна, сугалосна,
Як бы песьня хораў.

---

## Вецер.

Ой, ты, вецер неспакойны,
Дзьмеш ты бяз устанку!
Адну песьню нам сьпяваеш,
Адну кажаш байку.

То заплачаш сіратою
Над убогай хатай,
То застогнеш, як над нівай
Той мужык-араты;

То засьвішчаш за вугламі,
Жалем заліешся,
То сярдзіта ў дзьверы стукнеш,
Злосна засьмяешся!..

Ой, ты, вецер няпрытульны,
Родны брат мой ў долі;
Раскідаем сьмех і сьлёзы
Мы у чыстым полі!

---

## Васеньні дождж.

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Ціха па стрэсе бубняць;
Смутак наводзіць шум іх жалобны,
Хочацца плакаць, стагнаць.

Цёмная ночка, ночка глухая
Цягнецца доўга, як год.
Вецер дажджлівы панура сьпявае,
Жаласна сьвішча праз плот.

Круцяцца думкі, сон разганяюць,
Душу туманяць яны,
Волю далёкую мне ўспамінаюць,
Дні маладыя вясны.

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Нудна у вокны бубняць.
Смутна іх песьня, плачу падобна,
Сьлёзы ў тэй песьні чуваць!

---

## В я с н а.

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыйдзеш зноў,
Ты вернешся.

Вясёлы сьпеў
Прыветлівы
Руччоў ў палёх
Пачуецца.

Ачнецца гай
І з песьнямі
Ў зялёны ліст
Адзенецца.

І першы гром,
Як музыка,
Таёмна так
Пракоціцца.

Напоўніць лес
Птушачы сьвіст,
Травою луг
Акрыецца.

А з полудня
З маланкаю
Хмурыначка
Націсьнецца;

І грудзь зямлі
Ўскалышыцца,
Дажджом яна
Абмыецца;

Ў прыродзе ўсё
Народзіцца,
І морадасьць
Ей вернецца;

Ды толькі мне
Ня вернешся,
Ты, морадасьць!..
Ня вернешся...

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты вернешся,
Ты вернешся!..

---

## Хлебароб.

Цёплы вечар. Ціха ўсюды;
На заходзе сонца.
Хмаркі захад чуць заслалі
Тонкім валаконцам.

Зьяюць хмаркі ў пазалоце,
Як агнём палаюць.
За гарою ціха-ціха
Песьні заміраюць.

Хлебароб, мужык вясковы —
Вось па межах ходзіць;
Выйшаў у поле, каб пабачыць,
Як Бог жыта родзіць.

Твар сур'ёзны хлебароба,
Важны, задуменны;
Ходзіць, рукі залажыўшы
За паяс раменны;

Як-бы градкі, йдуць радамі
Вузкія загоны,
Апранула зямля-матка
Кажушок зялёны.

Густа жыта маладое
Поле ўсё пакрыла,
Расьце добра і прыгожа,
Ажно глянуць міла.

Каласочак раскрывае
Клетачку зялёну;
Дзе-ня-дзе яго ўжо вусік
Блісьне па загону.

Хлебароб глядзіць з уцехай,
Ходзіць ў Божым дару...
Так ні поп, ні ксёндз ня ходзіць
Пры сьвятым аўтару.

---

## Плытнікі.

Клунак за плячамі,
Кій ў руках хваёвы —
Валіць чарадамі
Бедны люд вясковы.

Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы;
Кажушок убогі,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла;
Нукае, гукае
На яе Кірыла...

Ярка сьвеціць сонца,
Ліст не скалыхнецца.
Горача бяз конца,
Пот на землю льецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка, Нёман,
З ранку ня сьціхае
Над вадою гоман.

Толькі крыкі чуеш:
„Вазьмі на „барбару"!
„Чаму не тарнуеш?!
„Гад! паб'ю ўсю хару!

„Закідай шырыгу!
„Папхні прысам ўліва!
„Варушыся, падла,
„Ня сьпі ў шапку! жыва!"

І заднік бяз толку
Па плыту лятае;
Згубіў ўсю знароўку,
Ня ў той бок трымае.

Ґнецца плыт дугою,
Ў бераг яго клоніць;
Быстраю вадою,
Як вужаку, ломіць.

Вось, на мель ўзагналі.
Крык, сярдзіты голас...
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі:
„Рразам, хлопцы! рразам!
„Ну, яшчэ! што сталі?
„Ну, яшчэ прыляжам!“

Вецер загуляе —
Хвойнік, лозы гнуцца;
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

Гнецца плытнік ў полі,
Мерзьне ён у холад;
Знае ён нядолю,
Знае ён і голад.

Што-ж? бяднота гоніць!
Толькі сілы траціш;
Толькі косьці ломіць,
Як хваробу хваціш...

Эх, ты, доля, доля!
Голад ты, бяднота!
Не свая тут воля,
Не свая ахвота!..

---

## Мы ходзім.

Мы ходзім спатыкаемся,
Бадзяемся, як п‘яныя;
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя.

Асьмееены, аблаены,
Гразёю мы абмазаны,
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволаю мы зьвязаны.

Ў балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны;
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся—
А ўсё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дачакаемся.

---

## Пісьмо з турмы.

Напішы мне,калі ласка,
Пісямко да хаты!
Піша з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты...

Охо-хо! Пракоп ўздыхае
Ў смутку і ў кручыне;
Белы ліст ў руках трымае
І канвэрцік сіні.

Просіць шчыра грамацея,
Навет шапку скінуў;
Сам Пракоп пісаць ня ўмее, —
Гдзе-ж—ў бядноце гінуў;

Вырас ў вёсцы на мякіне,
Жыў з худобай змалку,
Цяжар жыцьця зьнёс на сьпіне,
Высах ўвесь у палку;

У астатку вось папаўся
Ў сьпісак арыштанскі
За то, быццам, што зьбіраўся
Лес падкурыць панскі.

Што-ж табе пісаць, старэнькі?
— А пішы, нябога:
Жонка, сын мой дарагенькі!
Шлю паклон з вастрога.

Сэрца мне баліць, і вас я
З думак ня спускаю,
Кожны божы дзень і час я
Дом свой ўспамінаю.

Жонка мая дарагая!
Ты ня скрыўдзь Івана.
Калі грошай не хватае,
Пазыч у Сьцяпана.

Няхай дзядзька не баіцца —
Аддамо з падзякай, —
Хлопцу-ж трэба хоць акрыцца,
А ня йсьці сабакай.

Спраў кажух яму і боты,
Выпраў, як і людзі,
Дай з сабою колькі злотых —
Весялейшы будзе...

Калі досіць корму маеш,
Падкармі больш сьвінку,
Мо' якую захаваеш
На Вялікдзень шынку;

А калі на грош няхватка,
Або корму мала, —
Закалі і поўдзясятка
Хунтаў прышлі сала...

Сын мой! Снасьці рыбаковы
Добра ты прыпратай —
Згодзяцца; а венцер новы—
Маеш час—залатай;

І яшчэ, мой сын, прашу я,
Човен кінь ў адрыне,
Няхай вецер ня сьвідруе,
Няхай так ня гіне.

Ўсё, што можна, захавайце,
Пакуль я вярнуся.
Нераток стары аддайце
Міхалю з Габрусем.

Кнігі ўсе, апроч псалтыра,
Вы аддайце Грышку,
Няхай іх чытае шчыра,
Бо ён любіць кніжку...

Дарагі мой сын! прад здачай
Да мяне зайдзі ты,
Бо мо' больш і ня убачу,
Не пачую, гдзе ты.

Не маркоцьцесь, не бядуйце,
Дасьць Бог спосаб новы.
Што-ж ты зробіш? пагаруйце!.
Будзьце ўсе здаровы! —

---

## Гусі.

Зоры далёкія, зоры бліскучыя
Ціха гарацЬ над зямлёй.
Крыкі знаёмыя, крыкі пявучыя
Льюцца вячэрняй парой.

З поўначы холаду, сівера буйнага
Гусі на поўдзень ляцяць;
З неба далёкага, сьцепу лазурнага
Нудна прашчаньне крычаць.

Дзікія гусанькі, птушачкі вольныя,
Весьнікі скорай зімы!
Хочацца з вамі ў сьцепы прасторныя,
К сьвету і сонцу ад цьмы!

Толькі-ж падрэзаны крыльлі свабодныя:
Моцна пільнуюць мяне —
Дзьверы акутыя, сьцены халодныя,
Краты з жалеза ў вакне.

---

## Родныя абразы.

Вобразы мілыя роднага края,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя смутку красы?

Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас пред сабой:
Ціха праходзіце вы, як жывыя,
Зьяючы мілай красой.

Чуецца говар мне сьпелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага гоман шчасьлівы,
Песьня магучых дубоў...

Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд!
Песьні цягучыя, песьні пакутныя,
Бачу і чую вас тут!

---

## Песьня няволі.

Як лёгкі дым, як тонкі пар,
Расталі ў небе кучы хмар...
Ой, неба глядзь далёкая,
Крыштальная, глыбокая!

Як моцны гук, прызыў вясны
З тваей пачуўся вышыны!
Прастор, прастор і воля там,
Але ня нам яны, ня нам!

Запёрты мы, прыдаўлены
Рашоткі нам настаўлены.
Высок, высок паркан-сьцяна,
Нам песьня волі ня чутна...

Ня нам вясны прастор, лучы,
Ня бійся, сэрца, і маўчы!
Ў няволі годы адцьвітуць...
Не плач, душа! ня рвіся, грудзь.

---

*З зборніка „Водгульле“.*

## Перад бурай.

Сінь і глыб бяз канца—края...
Ціш і згодачка сьвятая
Неба, землю абнялі.

Сонца зранку жарам пыша'
Ветрык лісьце чуць калыша'
Вее чуць паўзьверх зямлі.

Лес і поле з збажыною,
Апавітыя смугою,
Задуменныя стаяць.

І сярод цішы трывожнай
Над замелькаю набожнай
Сталі хмаркі вынікаць;

Ды так ціха, так пужліва,
Як-бы зданкі або дзіва
Невядома скуль ўстае.

Шырыць сонца клуб іх белы
І маланак-громаў стрэлы
Ім на страх куе.

А зямля як-бы замлела,
Нават дуб стары нясьмела
Зрэдка лісьцем павядзе.

Змоўклі ўсе вакруг абшары,
Бо замысьлілі штось хмары...
Ой, знаць, бура загудзе!

---

## На ніве.

— Гэй, мой конік! гэй, мой сівы!
Ну, яшчэ, маленькі!
Варушыся, гэй, ня бойся,
Конік мой сівенькі! —

Ў полі зранку за сахою
Аратай гукае,
Сіўку, друга ў цяжкай працы,
Просіць—панукае.

Сам бяз шапкі, босы ногі,
Грудзіна раскрыта;
Б'юць каменьні аб нарогі,
Скрыгацяць сярдзіта.

І шуршаць пяскі буйныя,
Як жарства рачная,
Ходзіць подскакам ў дрыготках
Сошачка крывая.

Аратай ідзе спавагу,
Мерна, крок за крокам.
Вузка доўгая палоска,
Не акінеш вокам.

Пройдзе боразну аратай,
Сошку падтрасае,
Сам назад ўвесь падаецца;
Конік службу знае:

Сам заходзіць без панукі,
Без каманды, спраўна,
Аж нейк глянуць на сівога
Люба і забаўна.

Нібы знае сівы конік
Думкі аратая,
І яго панукі-крыку
Сіўка не чакае.

Аратай-жа, завярнуўшысь,
Спыніць друга-сіўку,
Слова ласкавае скажа
І папрáвіць грыўку;

Гладзіць коніка па шыі,
Мух дакучных гоніць,
Як-бы з самым лепшым другам,
З сіваком гамоніць.

— Змардаваўся? адпачынь, брат!
Пастаім, пакурым;
Вератнік мы гэты скончым,
Спачываць патурым.

Конік трэцца галавою
Аб яго кашулю;
Адпачыўшы, зноў ён цягне
Сошачку-крывулю.

А аратай, задуменны,
Зноў ідзе ступою.
Моцна, моцна іх зрадніла
Праца за сахою!

— Гэй, мой конік! гэй, мой сівы! —
Носіцца па полі.
Конік, сошка і аратай
Мерна йдуць паволі.

Эх, ты поле! колькі сілы
Тут затраціць трэба!
Цяжка, цяжка дастаешся
Ты, кавалак хлеба!

---

## Няшчасная маці.

У кожную ночку, як сьвет заціхае,
І зоркамі гляне гара,
Халодныя нутры зямля раскрывае,
З тых нутраў выходзіць мара.

Ідзе яна ціха, як ночка, панура,
Ідзе пад крыжы—растанцы,
Стаіць нярухома, выглядвае хмура —
Усе аглядае канцы.

І далей бяз шуму ідзе на балоты,
Ідзе, не крануўшы расы,
І плачуць ёй сьледам пудліва чароты,
І ціха шумяць ёй лясы.

Абходзіць магілы, на прыклад садзіцца
І сёлы вартуе яна,
Па роднаму краю снуе і цяніцца,
Заўсюды панура, адна...

* * *

І людзі гавораць, што часта чувалі
А поўначы плач на палёх
І часта кабету адну сустрачалі,
Гаротную, ўсю ў рызманох.

І чулае вуха той плач улавіла.
„Ой, дзетанькі!“ — плача яна:
„Ці-ж я за тым вас на сьвет нарадзіла,
Каб век заставалась адна?

Каб крыўдзілі людзі і жыць не давалі?
За што-ж вы зракліся мяне?
За што вы матулю жывой пахавалі?“ —
Так плача ўсё здань ў цішыне.

# Тройка.

Коні скачуць. Дзын-дзын дзын!
Гучны звон нясецца
І далёка між раўнін
Ціхім жалем льецца.

Ціхне, глухне гэты звон,
Ўскочыўшы ў гаёчак,
Ўсё слабее, ціхне ён,
Кволы галасочак...

Вось і тройкі ня відаць,
Праняслась стралою,
І званочка ня чуваць
Плачу пад дугою.

Толькі пыл трубой курыць
Над дарогай бітай;
Поле ціхае глядзіць
Сіратой забытай.

І пытае ціш яго
Поглядам, здаецца;
Хто праехаў і чаго
І куды нясецца?

І ня будзе знаць, стралой
Куды тройка скача,
І званочак пад дугой
Чаго ціха плача.

## Звон шыбаў.

Ноч маўкліва. Цёмна, глуха.
Прылажыла чутка вуха
За вакном старая вішня;
Штось прамовіць: шу-шу-шу!
І заціхне, бы баіцца
Памыліцца
І сказаць што-небудзь лішне.
Я лажусь, агонь тушу.

Неба хмура, няпрыветна;
Зрэдка ветрык чуць прыметна
Скулься ціха набягае
І галінкі згайдане
І зьнікае, ці дзесь далей
Бяжыць хваляй,
Байку тайнасьць ціха бае
Анямелай цішыне.

Ў хаце ціха, нават жутка.
Ловіць зыкі вуха пудка:
Звоніць шыбка штось жалобна —
Дррон-дррон! ціха бразгаціць...
Чуць счакаўшы, новым звонам—
Нізшым тонам
Так-жа нудна, так-жа дробна
Шыбка новая зьвініць.

Няма ветру, ўсюды ціха;
Шыбы-ж звоняць—што за ліха?
Хто ў іх стукнуў? Хто чапае?
Ці то знак хто хоча даць,
Што згубілі мы дарогу,
Б'е трывогу,
Ходзіць, ўсіх прасьцерагае
І накладвае пячаць

На шляхі, дарогі тыя,
Дзе крыжы згнілі старыя,
Ці зумыслу пазьнімалі,
Як ад'жыўшыя свой час?

Хто такі ён? Невядомы,
Незнаёмы,

А мо' дзе і сустракалі,
Мо' з ім бачыліс ня раз?

І так сьцішна, чагось смутна.
Ўсё сьпявае шкло пакутна;
Толькі-ж думка не згадае,
Што гуторыць гэты сьпеў,
І ня хоча супыніцца,
Пагадзіцца

З тым, што сэнсу ня ўчытае:
Ці то жалаба, ці гнеў?

Шыбы звоняць і сьпяваюць,
Песьню скончаць, зачынаюць,
То павысяць яны голас,
То замлеюць, то замруць.
Жаль ў іх песьні сэрца чуе,
І гаруе.
Шклечка-ж звоніць ўсё раз-по-раз,
Не дае ўсё мне заснуць.

---

## Цені-страхі.

Вечар блізка, жар спадае.
З цёмных шчылін хтось нязнаны
Цені-страхі выклікае,
Штось ім шэпча, штось ківае,
Ды таёмна, няўчытана.
Сьмех вясёлы зьбег няждана

З таго лесу і пагорку,
З тых лагчынак і з кургану.
    Смуткам поле чуць заткана,
Смутак ходзіць па надворку.
Пуцявінкай праз разорку
    Скача мышка палахліва
І шукае сваю норку
На мяжы каля аторку
    І зьнікае дзесь маўклівa.
Я іду, гляджу і — дзіва:
Ці раней таго ня бачыў?
    Ўсюды стала нейк пужліва
І трывожна-баязьліва!
Зьмену гэту я зазначыў.
    Хто-ж выраз той перайначыў?
Я ня сьцямлю і пытаю.
    Ўсіх, каго я тут ні бачыў,
Ўсіх, каго ні спатыкаю.
— Чапля! чапля! стой! — гукаю:
    Ты ня ведаеш, скажы ты,
Ці я сам страхоў шукаю,
Сам іх вобразы ствараю,
    Ці тым страхам ўсе спавіты?
— Ня пытайся: я ня знаю! —
Тры вароны ляцяць з гаю.
    Цяжка крыльлі іх мігаюць.
— Гэй, спынецесь! справу маю:
Штось у вас я запытаю... —
    — Мы ня знаем!.. Не, ня знаю!
Закрычалі і зьнікаюць.
Насустрэч старцы дыбаюць.
    — Скуль вы, людзі? Хто такія?—
Воч старцы не падымаюць,
Ўсе маўклівы, разважаюць:
    — Мы—сьляпыя, мы—глухія!—
Цені сталі больш густыя,
Многалучны, нясчысьлёны,
    Многазначны, хоць пустыя,
Вельмі страшны, бо нямыя,
Пад пячацьцю ўсе замкнёны.

# П о к л і ч.

Гэй, чулыя сэрцам! Гэй, душы жывыя!
Ідзеце вы долі шукаць!
Ёсьць у вас сілы яшчэ маладыя,
Ёсьць яшчэ крыльлі лятаць!

Але ўважайце: балотная бросьня
Іх кожную хвілю сачыць,
А гнільлю зацягне, душа не ўваскросьне,
Ўгару над зямлёй не ўзьляціць.

Вы чуеце хваляў жывых набяганьне?
Прыгледзьцеся: новыя дні,
На вас пазіраюць у іскрах сьвітаньня,
І сьвецяць другія агні.

Сьпяшайцеся, брацьці, расою халоднай
Ваш твар выразьлівы абмыць
І воздух гаючы палёў, нівы роднай
У грудзі чым больш захапіць.

Але памятайце: на вашым сумленьні
Нясплачаны доўг векавы:
То доўг прад народам, то доўг разуменьня,
Якое зачэрпалі вы

З народнага скарбу душы самабытнай
І з скарбу яго мазалёў.
То ён, працавік наш, то ён, старажытны,
На гору нас моўчкі узьвёў.

Гадуе вас поле, што золатам зьзяе...
Пяскоў, неўраджайных пяскоў...
Вас корміць сярмяга, што долі ня знае,
Ня ведае ласкі братоў.

Ідзеце-ж к народу, як добрыя дзеці,
Ідзеце. Злучайце яго.
І горкую праўду у вочы скажэце,
Чаго ён гаруе, чаго?

---

# „Сымон Музыка“.

**Кароткі зьмест:** У вясковай хаце нарадзіўся хлапец — Сымон. Ён быў непадобны да другіх. Складаў песенькі, прыслухоўваўся да музыкі ў прыродзе. Хлопчык быў загнаны ў бацькоў і суседзяў. Бацькі ня ведалі, што рабіць з хлапцом. Пасучы скаціну, Сымон пытаўся ў дзеда аб рэчах, яму толькі аднаму зразумелых: ці чуе зямля боль, чаму ня роўныя дзеравы ў лесе? Граньне дудароў напоўніла Сымонку жывым агнём. Дзед пазнаў талент у хлапцу, падарыў яму дудку, а, ўміраючы, і скрыпку. За ігрою Сымон часта не даглядаў авечак.

Адзін раз на авечак напалі ваўкі. Бацькі прагналі Сымона з дому. Сымон пачаў блукацца па сьвеце, і толькі скрыпка яго цешыла. Ён садзіўся дзе-небудзь у лесе, ці полі — і граў. Яго ігру пачуў сьляпы жабрак і ўзяў яго з сабою. Але яны адзін аднаго не разумелі.

Адзін раз, зайшоўшы з дзедам у хату, Сымон пабачыў дзяўчынку— Ганну; яны зусім зразумелі адзін аднаго. З гэтага часу яны ўжо адзін аб адным не забываліся.

Сымону дадзела хадзіць з дзедам, які яго не разумеў і выкарыстоўваў. Па нагавору жыда Шлёмы ён застаўся ў карчме іграць. Але й тут ня мог усядзець. Затое ў карчме ад парабка Яхіма Сымон пазнаў многа рэчаў аб жыцьці, аб людзкой няроўнасьці, аб патрэбе змагацца.

Сымон уцякае з карчмы, забіраецца ў лес і адводзіць па звычаю сваю душу ў ігры. Ігру гэтую пачуў князь, які быў на паляваньні, і рашыў забраць яго ў двор. У двары Сымон ня мог на дзівіцца ўсяму, што бачыў. Ён аб гэтым і ў сьне ня сьніў. Але разам з тым ён пачаў разважаць аб прычыне такое няроўнасьці. Вучыцелем у гэтым стаўся паляўнічы Даніла, у хату якога Сымон перабраўся. Разам з тым у яго расла туга па Ганьне і па прастору. Сымон, па звычаю свайму, выліў гэта ў музыцы, на гэты раз на балі ў князя. Калі паны не зразумелі яго, ён даў характэрнае паясьненьне. Сымон хацеў вучыцца па нотах, або хоць чытаць, але пан Галыга, музыка князя, які зразу заціkавіў Сымона ігрой на роялі, адмовіў яму, сказаўшы, што для яго лепей застацца сьляпым. Сымон урэшце ўцякае і скіроўваецца, вядома-ж, да дому Ганны.

Ганна ўвесь час думала аб Сымону. Але ў яе ўлюбіўся сусед Дамянік. Ня маючы ўзаемнасьці, ён падсьцярог Ганну ў лесе і кінуўся да яе. Ад гэтага Ганна цяжка захварэла і сталася няпрытомнаю. Калі Сымон прыйшоў да яе дому, ніхто не спадзяваўся, што што-небудзь будзе з яе. Аднак пад чароўную музыку Сымона і пад яго голас—яна паступова пачала прыходзіць да жыцьця.

На тым і канчаецца поэма, цікавая ня толькі агульным зьместам, а галоўнае — апісаньнем дзіўнае ігры ў розных мясцох, глыбокім разуменьнем душы мастака-музыкі, пераданьнем дробных адценкаў яго перажываньняў, проста нязвычайных і так пяшчотных для сына вёскі. Апісаньне прыроды краю і тут у Коласа нашло годнае месца ў роўнай-жа меры, як і сьведамасьць, што прычынай марнаваньня таленту, годнага лепшага лёсу, было прыніжанае палажэньне селяніна.

---

## Беларускай моладзі.

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,

Ад сьветлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,

З якіх аснована і выткана жыцьцё
І злучана быцьцё і нябыцьцё, —
Зьбіраўся скарб, струменіўся няспынна,
Вясёлкавым ірдзеньнем мне сьпяваў.

І выхаду шукаў
Адбітак родных зьяў

У словах-вобразах, у песьнях вольна-плынных.
І гэты скарб, пазычаны, адбіты,

У сэрцы перажыты
І росамі абмыты

Дзяньніц маіх, дзяньніц маіх мінулых,
Для вас, душою чулых,

Як доўг, як дар,
Дае пясьняр.

---

## Сымонка.

Ня прыхільны, як сіротка,
Ня прыласканы нікім,
Ведаў хлопчык, як салодка
Жыць вось так, сабой самым.
На Сымонку даўно ў хаце
Ўсе махнулі ўжо рукой.
Не радзіцца-б лепш дзіцяці
З такой чуткаю душой
У куточках, дзе спрадвеку
Беднасьць лютая гняце.
Цяжка жыць у цемнаце,
У зьнявазе чорнай, зьдзеку,
Дзе адбітак свой з-за хлеба
Накладае талака,
Дзе так пільна праца трэба,
Плечы моцныя, рука,
Дзе рот лішні на прымеце
І так топчацца сям'ёй, —
Лепш-бы там ня жыць на сьвеце
Дзеткам з чуткаю душой!
І Сымонка чуў і бачыў,
Як крыўляліся дзядзькі,
Ведаў, што ў сям'і ён значыў;
Нават родныя бацькі
Папракалі сына хлебам
Пры абедзе за сталом.
Ён—завала, ён—нязгрэба,
Ён радзіўся гультаём!
Горка стане бедачыне,
Ня прыхіліцца нідзе,
Тады толькі жаль астыне,
Як пажаліцца дудзе.
На прывольлі, сеўшы ў полі,
Сумна стане хлопчык граць;
Льлюцца, таюць зыкі болю,
Аж колоцяцца, дрыжаць,
Ды заплачуць, затрасуцца,
Капнуць дробнымі сьлязьмі,
То ў гару яны памкнуцца,
То зноў нікнуць на зямлі
І жалобна заміраюць
Немай жальбаю глушы,
То зноў ціха зачынаюць
Гоман сэрца і душы.
— Ось, глядзеце, здольна грае,
Як дудар той запраўскі!
Так, галубкі, выцінае,
Што рве сэрца на кускі, —
Смутак жнеек тых апране,
Разагнуцца і стаяць,
Як Сымон на дудцы стане
Жальбу сэрца выяўляць, —
Так-жа грае ён прыгожа,—
Серп застыне ў іх руках
І павісьне жменька збожжа
На разогнутых плячах.
Але дудка замірае,
Як-бы той дзявочы ўздых,
І паволі заціхае
У прасторах дзесь пустых.

---

## Ганка.

Дык-то Ганна! Ну й дзяўчынка!
І прыўдалая-ж яна!
Станік тонкі, бы націнка,
Тварык — ветлая вясна.
А як гляне, вочкі ўскіне,
Усьміхнецца — ясны дзень!
Хоць якая злосьць астыне,
Раптам згоніць з твару цень.
— Ну, частуй музыку, Ганя!
Застыдзілася яна,
Як цьвет маку, ўся дазваньня
Шчочка стала чырвана.

Але вочкі ускідае
На Сымонку ды ізноў
Іх саромліва спускае
І ніяк ня знойдзе слоў
Папрасіць яго, як трэба.
І Сымонка сам ня свой:
З сырам сыр есьць замест хлеба,
Трэ галушачкі рукой,
Ніжай гне свой стан сірочы,
Рук ня знае, дзе падзець
І ня сьмее ёй у вочы
Сьмела, проста паглядзець.
Дзед тымчасам твар жагнае,
Вочы ўзьняўшы к абразом,
І прад імі высляўляе
Ён прыветны гэты дом.

---

## Родны край.

О край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у сьвеце божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары — лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе у восень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Ад'значаюць гожа пуць?!
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю-рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Эх, ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі!
Вы пуцінаю няроўнай
Бяжыцё ў далячыню,
У бок Віліі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну.
Край мой родны! дзе-ж у сьвеце
Край другі такі знайсьці,

Дзе-б магла так поруч з сьмецьцем
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе-бы вобруку з галечай
Расквятнеў багацтва цуд
І дзе-б з долі чалавечай
Нясьмяяліся, як тут?...

Скрозь вяночкі дрэў вясёла
Над мястэчкам ці сялом
Цэрквы, стромкія касьцёлы
Вежы ўзносяць к небясом.
А званіцы перад сьвятам
У касьцёл, царкву завуць,
Каб прад богам і прад братам
Віны ўсе свае пачуць.
Родны край! у божа імя
Ў чэсьць касьцёлаў і царквоў
Паміж дзеткамі тваімі
Многа легла камянёў;
Многа вышла трасяніны —
Меч, агонь зьнішчалі край:
З двух бакоў „айцы“ дубінай
Заганялі нас у рай!
Кроў лілася ручаямі,
Зрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрца кінута была.
І цяпер над намі, брацьця,
Яшчэ ў сіле той раздор —
І папоўскае закляцьце
І ксяндзоўскі нагавор.

Брацьця мае, беларусы!
У тэй кнізе людзкіх спраў
Сам лёс, мусіць, для спакусы
Гэты край нам ад’значаў.
Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,
А нас цяжка ў сэрца раніць
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесьці на зьдзек,

